# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№11 (258)
лістапад 2023

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## Уладзімір Арлоў узнагароджаны прэміяй маршалка Падляшша

Пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў, які цяпер знаходзіцца ў вымушанай эміграцыі ў Беластоку, стаў адным з 11 лаўрэатаў штогадовай прэміі маршалка Падляшскага ваяводства за дасягненні ў галіне мастацкай творчасці, пашырэння і аховы культуры. 5 снежня ў сядзібе Маршалкоўскай управы адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне беларускага літаратара.

Старонка 2






# "АПАНТАНЫ БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ"

## РАДЗІМУ ГАРЭЦКАМУ – 95!

95-гадовы юбілей святкуе жывы класік і непахісны аўтарытэт у галіне геолага-мінералагічных навук, прафесар, колішні віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, лаўрэат безлічы дзяржаўных і замежных прэмій, аўтар прарыўных манаграфій і шэрагу найважнейшых доследаў усёпланетнага значэння Радзім Гарэцкі. Нам цяжка паверыць, быццам хтосьці можа не ведаць пра шаноўнага Радзіма Гаўрылавіча, таму проста лішні раз самі сабе нагадаем, чаму для нас такое шчасце падзяліцца з вамі гэтай навінай.

### Па-першае, 95 гадоў – ужо само па сабе пэўнае дасягненне

Словы гэтыя камусьці могуць падацца простымі і пуставатымі. Але варта падысці да першага-лепшага мінака з адкрыццём, што ёсць у Беларусі акадэмік, навукова актыўны і дзейны, усімі паважаны, на цэлы свет аўтарытэтны, а сёння яму споўнілася 95 гадоў – і рэакцыя будзе прадказальная. Літаральна кожны, адчуўшы прыліў некантраляванай стыхійнай павагі да патэнцыялу беларускіх сыноў і дасягненняў беларускай навукі, прыцмокне і пахітае галавой.

### У платформах тэктанічных ён адзін разбіраецца нашмат лепей, чым усе ютуб-аналітыкі разам узятыя ў платформах палітычных

Прадметы навуковых зацікаўленасцяў акадэміка Радзіма Гарэцкага даволі спецыфічныя, каб падаваць тут іх пералік, і палягаюць далёка не ў гуманітарнай галіне, як у большасці выбітных асобаў, пра якіх мы пішам.

Не абазнаны ў найноўшых дасягненнях геалагічнай навукі паспаліты чытач ні каліва з таго спісу не зразумее, затое з лёгкасцю запомніць, што навуковых прац, манаграфій, тэктанічных мапаў, вынаходніцтваў і да таго падобнага Радзім Гаўрылавіч стварыў агулам больш за паўтысячы, і карысці яны прынеслі нямала.

З іх дапамогай стала вядома, да прыкладу, пра газаносныя раёны Прыаралля, пра Базайскае радовішча нафты ў Казахстане. Пры непасрэдным удзеле Радзіма Гарэцкага чалавецтва атрымала тэктанічныя мапы Еўропы і Еўразіі, а Беларусь – нацыянальную школу тэктонікаў як вынік шматгадовай працы Інстытута геалагічных навук Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і дзейнасці кафедры геалогіі на геафаку БДУ, якія ён узначальваў.

Скуль такія глыбокія веды пра далёкія краі? Так атрымалася.

### Пацярпеў ад "тых самых" рэпрэсій 30-х гадоў

З нейкай прычыны абвінаваціць паўтарагадовага хлопчыка ва ўдзеле ў "Саюзе вызвалення Беларусі" (тагачасны "народны артыкул" для інтэлігенцыі) або зрабіць фігурантам справы "Працоўнай сялянскай партыі" ГПУ ў 1930 годзе не даўмелася.

Працяг на старонцы 2

**навіны ЗБС "Бацькаўшчына"**

# УЛАДЗІМІР АРЛОЎ УЗНАГАРОДЖАНЫ ПРЭМІЯЙ МАРШАЛКА ПАДЛЯШША

Пісьменнік і гісторык Уладзімір Арлоў, які цяпер знаходзіцца ў вымушанай эміграцыі ў Беластоку, стаў адным з 11 лаўрэатаў штогадовай прэміі маршалка Падляшскага ваяводства за дасягненні ў галіне мастацкай творчасці, пашырэння і аховы культуры. 5 снежня ў сядзібе Маршалкоўскай управы адбылося ўрачыстае ўзнагароджанне беларускага літаратара.




Варта адзначыць, што рашэнне аб тым, хто сёлета будзе ўзнагароджаны прэміяй у памеры 10 тысяч злотых, было прынята на паседжанні праўлення Падляшскага ваяводства 15 лістапада. Атрымліваючы памятную статуэтку і адпаведнае пасведчанне, Уладзімір Арлоў паведаміў, што гэта ўжо трэцяя ўзнагарода, якой яго творчасць ушанавана ў Польшчы.

– Гэта трэцяя мая польская ўзнагарода. Я маю прэмію ад Гданьскай мэрыі "Еўрапейскія паэты свабоды". Маю срэбны медаль Gloria Artis за заслугі ў польскай культуры. Цяперашняя ўзнагарода мне асабліва дарагая, таму што атрымана тут на Падляшшы, якое дала мне і многім беларусам, у тым ліку, і беларускім творцам прытулак у гэты вельмі цяжкі час для нашай краіны, для ўсіх, хто служыў і працягвае служыць беларускай культуры, і ўсіх беларусацэнтрычных людзей.

**– Уцёкі і жыццё ў вымушанай эміграцыі спрыяюць творчасці?**

– У мяне было заўсёды так, што творчасці спрыялі найперш родныя мясціны, родныя сцены ў Мінску, у Полацку, у бацькоўскай кватэры, дзе цяпер жыве мая сястра, дзе мой улюбёны фатэль і стол, за якім я таксама нямала напісаў, як і ў Мінску. Безумоўна, новая экзістэнцыйная сітуацыя, якую я называю "У дарозе", надае новыя ўражанні, падказвае новыя сюжэты. Але гэта сітуацыя вельмі няпростая для творчай засяроджанасці. Тым не менш, у мяне напісана ўжо больш за сотню старонак новай кнігі. Я спадзяюся, што давяду гэтую справу да канца. Ну і тут ужо на Падляшшы, у Польшчы выйшла новая мая кніга "Айчына. Ад Агінскага да Багушэвіча". Я яе тут дапрацоўваў, рыхтаваў да друку. Часткова яна была зроблена ў Беларусі, большая частка, але кавалак працы быў і тут. І выйшла новае выданне кнігі "Імёны свабоды" амаль з 50 новымі героямі, пра якіх мае гэтыя кароткія гістарычныя партрэты былі таксама напісаныя ўжо не ў Беларусі. Я мяркую працягваць гэту кнігу, таму што з'яўляюцца новыя героі, чыё жыццё завяршылася, але яно было прысвечанае Беларусі. У мяне журналісты не раз пыталіся пра творчыя планы, я думаю, што ўстрымаюся. Гэта традыцыйнае пытанне. Устрымаюся, каб не насмяшыць Бога, як кажуць, згадваючы сваю бабулю, добрую вядзьмарку, якая мяне вучыла яшчэ малога, што пра тое, што збіраешся зрабіць, ніколі не кажы, каб зрабілася.

Віншуючы спадара Уладзіміра і іншых узнагароджаных, Маршалак Падляшскага ваяводства Артур Касіцкі адзначыў, што грошай на культуру, якія выдаткоўвае ваяводскае самакіраванне, з кожным годам усё больш.

– На культуру ў 2017 годзе мы выдавалі 60 млн злотых. У гэтым годзе на культуру выдаем ужо 140 млн злотых. У 2024 годзе плануем, каб гэта была сума 240 млн злотых.

radiounet.fm

# ПАЎСТАЛА ЗГУРТАВАННЕ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК ЭСТОНІІ

Адна з мэт – наладжванне эфектыўнага ўзаемадзеяння паміж беларускай дыяспарай і эстонскім грамадствам.

Эстонскія грамадскія арганізацыі з беларускімі каранямі аб'ядналіся ў нефармальную кааліцыю "Згуртаванне беларускіх суполак Эстоніі".

Беларуская дыяспара ў Эстоніі зараз трэцяя па колькасці пасля расійскай і ўкраінскай (каля 12.000 чалавек). Беларусы бяруць актыўны ўдзел у грамадскім і дзелавым жыцці Эстоніі, сярод іх шмат кваліфікаваных спецыялістаў у самых розных сферах. Яны зарэкамендавалі сябе як надзейныя і дысцыплінаваныя супрацоўнікі, партнёры, на якіх можна разлічваць. Дзейнасць беларускіх дыяспаральных арганізацый знаходзіць разуменне і падтрымку з боку ўрада Эстоніі.

"Цяпер беларуская дыяспара Эстоніі перажывае новы этап станаўлення, які звязаны найперш са зломам кансерватыўнага трэнду: большая частка беларусаў, якія жывуць у Эстонскай Рэспубліцы, аддалі галасы за дэмакратычны выбар у жніўні 2020 года. З гэтага моманту назіраецца новая хваля згуртавання беларусаў у Эстоніі і Таліне, у прыватнасці, на дэмакратычнай праеўрапейскай платформе", – кажа адзін з актывістаў кааліцыі Павел Марозаў, кіраўнік Valgevene Uus Tee – арганізацыі, якая дзейнічае ў Эстоніі з 2006 года.

Дзейнасць кааліцыі падтрымала МЗС Эстоніі, з якім у "Згуртавання беларускіх суполак Эстоніі" наладжаны працоўны кантакт. Апроч актыўнага дыялогу з уладамі Эстонскай Рэспублікі, грамадзянскай супольнасцю краіны, у сферы інтарэсаў "Згуртавання беларускіх суполак Эстоніі" захаванне і папулярызацыя беларускай нацыянальнай культуры, мовы, падтрымка беларускіх актывістаў, палітычных зняволеных і іх сем'яў, інтэлектуальнай эліты і дзеячоў культуры ў эміграцыі.

У лістападзе ў Таліне пройдзе штогадовы кінафестываль "Паўночнае ззянне", які стаў візітоўкай беларусаў Эстоніі. Пры падтрымцы сталічнай мэрыі плануецца адкрыццё ў найбліжэйшай перспектыве "Беларускага Дому ў Таліне" – стацыянарнай пляцоўкі для мерапрыемстваў рознага фармату.

"Экзістэнцыйныя выклікі, якія на дадзены момант стаяць перад беларускім грамадствам і беларусамі за мяжой, патрабуюць кансалідацыі намаганняў па многіх кірунках. Іх цяжка рэалізаваць сіламі адной арганізацыі, – адзначае Ірына Суурсільд, лідарка Valgevene Maja, грамадскай арганізацыі беларусаў хвалі-2020. – Мы спадзяемся наладзіць кантакт з беларускімі дыяспарамі іншых краін, у першую чаргу Скандынавіі і Балтыі, для супрацы на рэгіянальным і еўрапейскім узроўнях. У прыватнасці, намі ўжо ўсталяваны кантакт і вызначаны вектар сумеснай дзейнасці з беларускай дыяспарай Фінляндыі".

Немалаважную ролю ў дзейнасці аб'яднання таксама адыгрывае адвакатаванне інтарэсаў беларусаў у дзяржаўных органах Эстоніі. Зараз "Згуртаванне беларускіх суполак Эстоніі" вядзе перагаворы з МУС Эстоніі па замене пашпартоў грамадзян Беларусі з заканчэннем тэрміну дзеяння на эстонскія праязныя дакументы. Устаноўлены кантакт з мэрыяй Таліна, якая гатова падтрымаць беларусаў па шэрагу надзённых праблем. У бліжэйшы час "Згуртаванне беларускіх суполак Эстоніі" збіраецца правесці даследаванне, мэта якога – ацэнка дэмакратычнага патэнцыялу беларускай дыяспары ў Эстоні

У "Згуртаванне беларускіх суполак Эстоніі" ўваходзяць наступныя арганізацыі: Valgevene Uus Tee, Valgevene Maja, Belarusian Independent Film Academy, Wind Rose Center, Friida Bell, Digital Media Hub, Kodanikualgatuse Toetuskeskus, Valgevene, Kultuuri Assotsiatsioon, Valgevene Spordi Solidaarsusfond.

Паводле прэс-рэлізу

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# "АПАНТАНЫ БАЦЬКАЎШЧЫНАЙ"

Працяг са старонкі 1

Але цяжар гэты не абмінуў ягонага бацьку, акадэміка Гаўрылу Гарэцкага. Яму двойчы выносілі расстрэльны прысуд і двойчы замянялі яго лагерамі, дзе, да шчасця, прыдаваўся яго інжынерна-геалагічны талент, што дазваляла працаваць па спецыяльнасці. Але Радзіму, яго малодшаму сыну, жыць давялося ў высылцы.

Апісаць у адным абзацы ўвесь пакручасты жыццёвы шлях сям'і Гарэцкіх у наступныя пасля арышту 40 гадоў папросту немагчыма. Нават сам Радзім Гаўрылавіч прысвяціў рэканструкцыі жыццёвага шляху свайго бацькі (а заадно і яго брата, класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага) не адну таўшчэзную дакументальна-эпісталярную кнігу: гэта і "Браты Гарэцкія"; і створаная на падставе архіваў КДБ, куды ў ліхія 90-я людзей пачалі былі пускаць, "Ахвярую сваім "Я"", і "Акадэмік Гаўрыла Гарэцкі і Ўкраіна"…

Найбольш кранальны том з гэтай серыі – "Лісты жыцця і кахання". Сёння, калі ў Беларусі эпісталярны жанр з сумных нагодаў перажывае рэнесанс, "Лісты…" могуць прынесці сваім чытачам нямала карысці. Кніга ўтрымлівае ліставанне бацькоў спадара Радзіма – Гаўрылы Іванавіча і Ларысы Восіпаўны – і ў пэўнай ступені з'яўляецца, калі не рэцэптам, то дакументацыяй доследу захавання добрых адносін у сям'і,



Гаўрыла Гарэцкі з братам Парфірам і сынам Радзімам. Магілёў. 3 траўня 1974 года. Фота: www.movananova.by

якая большую частку свайго жыцця вымушана пражыць у разлуцы.

### Прайшоў шлях ад сына "ворага народа" да доктара навук і атрымальніка Дзяржпрэміі

Пра гэта ў Радзіма Гарэцкага таксама ёсць кніга, да якой мы чытачоў і адсылаем – называецца "Акадэмік Яншын – дарагі мой настаўнік і сябар".

Для нас жа найдаражэйшае тое, што "апантаны Бацькаўшчынай" Радзім Гарэцкі вярнуўся ў Беларусь у 1971 годзе (ягоныя бацькі – на пару гадоў раней), за плячыма маючы досвед жыцця ў месцах з нянаскімі назвамі, накшталт "Тулома" ці "Мядзвежагорск", атрыманую ў Маскоўскім нафтавым інстытуце вышэйшую адукацыю, досвед навуковай працы ў Геалагічным інстытуце Акадэміі навук СССР і доктарскае званне. Узначаліў аддзел, а пазней і Інстытут геахіміі і геафізікі АН БССР, а ў незалежнай Беларусі пабыў нават віцэ-прэзідэнтам Акадэміі навук.

І не толькі віцэ-.

### Рабіў прэзідэнтам Бацькаўшчыны яшчэ да таго, як гэта зрабілася канстытуцыйным мэйнстрымам

Узначальваў шаноўны Радзім Гаўрылавіч, што праўда, усяго толькі аднайменную арганізацыю, затое буйную, міжнародную і цягам васьмі гадоў – "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" (ліквідавана рашэннем суда ў 2021 годзе). І хоць прэзідэнтам ён быў не першым (першым прэзідэнтам быў, як усім вядома, Васіль Быкаў), абралі на пасаду Радзіма Гарэцкага падчас эпахальнай падзеі – Першага з'езду беларусаў свету.

Тое быў прарыўны акт яднання грамадскасці, дыяспары і дзяржавы ў справе аб'яднання падзеленых савецкай самаізаляцыйнай палітыкай беларусаў замежжа з беларусамі тутэйшымі, таму можна смела казаць, што на карысць Радзіма Гарэцкага быў дэмакратычны выбар беларусаў усяго свету.

Грамадская дзейнасць Радзіма Гаўрылавіча гэтым не абмяжоўвалася. Ён быў сябрам рады і Таварыства беларускай мовы (ліквідавана рашэннем суда ў 2021 годзе), і Таварыства беларускай інтэлігенцыі, і Беларускага фонду культуры, прадказальна старшыняваў у Фондзе братоў Гарэцкіх, а ў Фондзе імя братоў Луцкевічаў, здаецца, таксама прэзідэнцтваваў.

**budzma.org**



# РАДЗІМУ ГАРЭЦКАМУ – 95!

*Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" сардэчна віншуе шаноўнага Радзіма Гаўрылавіча з 95-годдзем!*

Імя акадэміка Радзіма Гарэцкага добра вядомае сусветнай навуковай супольнасці – для яе ён жывы класік і непахісны аўтарытэт у галіне геолага-мінералагічных навук, доктар, прафесар, колішні віцэ-прэзідэнт Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, лаўрэат безлічы дзяржаўных і замежных прэмій, аўтар прарыўных манаграфій і шэрагу найважнейшых доследаў усёпланетнага значэння.

Імя пісьменніка і публіцыста Радзіма Гарэцкага знаёмае кожнаму, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі – яго кнігі, прысвечаныя пытанням гісторыі нацыянальнага адраджэння, як пачатку XX стагоддзя, гэтакі і XXI-га, а таксама рэканструкцыі біяграфій беларускіх дзеячаў з дынастыі Гарэцкіх, даўно зрабіліся літаратурна-гістарычнай класікай.

Але што датычыць нас, то няма для "Бацькаўшчыны" даражэйшай іпастасі Радзіма Гаўрылавіча за грамадска-дзяяцкую. Бо менавіта ён ад моманту абрання яго прэзідэнтам на Першым з'ездзе беларусаў свету цягам васьмі гадоў кіраваў Згуртаваннем, браў удзел у падрыхтоўцы ўсіх сямі З'ездаў і да самай ліквідацыі быў адным з самых актыўных сябраў Згуртавання, заўжды выкройваючы з сваіх навуковых заняткаў час, каб падтрымаць арганізацыю і падзяліцца мудрасцю з кіраўніцтвам.

Праз усе гэтыя гады мы не можам перастаць захапляцца моцай адданасці Радзіма Гаўрылавіча беларускай справе. Мець далучанасць да асобы такога маштабу – найвышэйшы гонар для нас.

Шаноўны Радзім Гаўрылавіч! Ад усяго сэрца зычым Вам моцнага здароўя і натхнення, заўжды заставацца такім жа імпэтным і актыўным!

**ЗБС "Бацькаўшчына"**

навіны

# ІМЯ СКАРЫНЫ НА МАПЕ РЫГІ ЯК ВЫНІК ВЫСІЛКАЎ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК І ЛНБ

З'яўленне беларусаў у Латвіі, у першую чаргу, ў Латгальскім краі, сягае ў далёкую мінуўшчыну. Аб гэтым сведчаць археалагічныя знаходкі як беларускіх, так і латышскіх даследчыкаў гісторыі памежжа Віцебшчыны і Латгаліі, а таксама даследаванні воднага гандлёвага шляху па Дзвіне-Даўгаве. Рака Дзвіна, а на тэрыторыі Латвіі – Даўгава, з даўніх часоў з'яўлялася галоўным шляхам для гандлёвых сувязяў старажытных беларускіх гарадоў Полацка, Віцебска, Смаленска, Дрысы ды іншых населеных пунктаў Беларусі з гарадамі Латвіі – Рыгай, Ерсікай, Кокнэсэ і інш. У 1229 годзе паміж Рыгай і Віцебскам быў заключаная дамова аб вольным гандлі. Тады ж было падпісанае гандлёвае пагадненне паміж Рыгай і Смаленскам, землі якога ўваходзілі ў тэрыторыю беларускага этнасу.




З таго часу і да 1930-х гадоў, пакуль Даўгаву не перакрыла Кегумская ГЭС, з беларускіх гарадоў у Рыгу плылі стругі беларускіх купцоў з зернем, каноплямі, мёдам, воскам і іншымі таварамі. На правым беразе Даўгавы ў Старой Рызе ў 1453 годзе непадалёк ад царквы Екаба знаходзілася першая беларуская царква Св. Міколы. У Старой Рызе ў канцы XV і пачатку XVI стагоддзяў знаходзілася кантора купца Лукі Скарыны, бацькі Францішка Скарыны, ды і іншых родзічаў Скарынаў.

Трохі пазней беларускай мясцінай стаў левы бераг Даўгавы, востраў Кліверсала, у раёне цяперашняй вуліцы Кугю (Kuģu), куды беларускія плытагоны прыпынялі стужкі плытоў, дзе ляжалі горы штабялёў з беларускага мачтавага лесу. Там у XIX стагоддзі знаходзіліся склады і драўляная бажніца – уніяцкая царква Святой Троіцы, пабудаваныя беларускімі купцамі і плытагонамі.

Рыжскі мастак, краязнаўца і асветнік Іохан Броцэ (Johans Broce) ў канцы XVIII і пачатку XIX ст. пакінуў на памятку нашчадкам малюнак царквы і яе наваколля.

Падчас даследавання беларускіх гістарычных мясцін у Рызе ў 1970-х гадах мне стала вядома, што Лука Скарына меў сваю гандлёвую кантору ў Рызе, і ужо тады ў мяне з'явілася версія, што малады Францішак, да таго, як ехаць па навуку ў Кракаў, хутчэй за ўсё, наведаў з бацькам Рыгу. На маю думку, першае яго знаёмства з еўрапейскай культурай і кнігадрукам адбылося менавіта ў Рызе. Пра беларускага першадрукара Францішка Скарыну беларускімі і іншымі навукоўцамі напісана шмат кніг. Публікаваліся і дакументы таго часу, якія сведчаць аб гандлёвых сувязях полацкіх купцоў з Рыгай, у тым ліку згадваюцца і імёны полацкіх Скарынаў.

У старажытнай Рызе ёсць шмат вуліц і сквераў, назвы якіх звязаны з імёнамі розных вядомых выдатных людзей, і не толькі прадстаўнікоў латышскага народа. З 1960 года ў Рызе была вуліца Янкі Купалы, але ў 1991 годзе яна была перайменаваная ў вул. Віландэс. Ідэя даць назву вуліцы або скверу імя Францішка Скарыны ў Рызе з'явілася ў дырэктара Латвійскай Нацыянальнай бібліятэкі Андрыса Вілкса. У 2017 годзе, калі Беларусь і ўвесь цывілізаваны свет паводле рашэння ЮНЭСКА адзначаў 500-годдзе беларускага кнігадруку, Латвійская Нацыянальная бібліятэка таксама адзначала гэтую дату. З гэтай нагоды ў Рыгу прыехаў з кніжнымі падарункамі для бібліятэкі намеснік дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі Алесь Суша. Андрыс Вілкс тады ў сваёй прамове згадваў пра беларускае месца XV і XVI стагоддзяў, дзе стаяла беларуская царква. Яна знаходзілася ў гэтым раёне непадалёк ад сучаснага будынка бібліятэкі. Пасля заканчэння сустрэчы Андрыс Вілкс прапанаваў, што добра было б, каб ў гэты юбілейны год Рыжская Дума надала імя Францыска Скарыны частцы вуліцы Волгундэс, або скверу, што побач з бібліятэкай. Я адразу падтрымаў гэтую ідэю, але я прапаноўваў надаць імя Францыска Скарыны таму скверу, што побач з гатэлем Radisson Blu Daugava, бліжэй да таго месца, дзе стаяла беларуская царква Св. Тройцы. Адразу пасля сустрэчы быў напісаны зварот з нашай прапановай у Рыжскую Думу ад Латвійскага таварыства беларускай культуры "Сьвітанак", падпісаны старшынёй Ірынай Кузьміч. Тады былі напісаныя і далучаныя лісты яшчэ ад двух беларускіх таварыстваў і Рыжскай Беларускай асноўнай школы, якія згодныя былі падтрымаць гэтую прапанову. Асобны ліст быў напісаны ад імя Латвійскай Нацыянальнай бібліятэкі. Лісты былі дасланыя на імя мэра Рыгі Ніла Ушакова – старшыні партыі "Saskaņa" ("Згода") з просьбай надання вуліцы Волгундэс імя Францыска Скарыны. Аднак праз два месяцы быў атрыманы адказ з Рыжскай Думы, у якім згадваліся розныя прычыны, праз якія наданне вуліцы імя Францыска Скарыны ў Рызе не можа быць падтрымана. Апошняя выснова была простай бюракратычнай адпіскай: "…назва вуліцы не ёсць адзінай магчымасцю захавання памяці аб персоне".

Пасля таго, як спадар Ушакоў і яго каманда перасталі кіраваць мэрыяй Рыгі, а старшынёй Рыжскай Думы быў абраны ад партый Attīstībai/Par!, "PROGRESĪVIE" (Развіццю/За!, "Прагрэсіўныя") Мартыньш Стакіс, у 2020 годзе быў напісаны агульны ліст на яго імя з прапановай аб ушанаванні на мапе Рыгі імені Францыска Скарыны ад ЛТБК "Сьвітанак", падпісаны старшынёй Таццяной Казак, Аб'яднання мастакоў-беларусаў Балтыі "Маю гонар" з подпісам старшыні Вячкі Целеша, Рыжскай Беларускай асноўнай школы імя Янкі Купалы, падпісаны намеснікай дырэктара Ганнай Іванэ, Беларускага культурна-асветніцкага таварыства "Уздым" з Даўгаўпілса і Беларускага культурнага цэнтра г. Даўгаўпілса, падпісаны дырэктарам цэнтра і тагачаснай старшынёй "Уздыму" Жаннай Рамаloadўскай, Елгаўскага беларускага таварыства "Лянок" з подпісам старшыні Алены Грысле. Дырэктар Андрыс Вілкс таксама нанова напісаў ліст ад імя Латвійскай Нацыянальнай бібліятэкі. Да вышэй пералічаных, ліст мэру Рыгі ў падтрымку нашай ідэі прыслаў з Канады старшыня Таварыства сяброўства "Беларусь – Латвія" Сяргей Панізнік, паэт і даследчык беларуска-латышскіх сувязяў, кавалер Ордэна Трох Зорак. Для надання імя вуліцы ці сквера імя Францішка Скарыны камісія па назвам вуліц і гарадскіх аб'ектаў ад нас запатрабавала дакументы і навуковыя абгрунтаванні таго, як імя Скарыны звязана з Рыгай. З дапамогай беларускіх навукоўцаў прафесара Адама Мальдзіса, доктара навук Вячаслава Чамярыцкага і старшыні Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў Алеся Сушы, якія даследавалі жыццё і дзейнасць Францішка Скарыны, мы атрымалі навукова абгрунтаваныя лісты на імя мэра горада ў падтрымку нашай прапановы.

Працяг на старонцы 8.

навіны

# ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ ЛІТВЫ АДСВЯТКАВАЛА 35-ГОДДЗЕ

35-годдзе заснавання адзначыла Таварыства беларускай культуры ў Вільні. Святочная імпрэза пачалася з канферэнцыі пад назвай "Беларусы ў Літве: учора і сёння". На ёй прысутнічалі беларусы і ганаровыя госці, сярод якіх старшыня клуба "Гервяты", першы амбасадар Літвы ў Беларусі Альфонсас Аўгуліс, дацэнт кафедры гісторыі ўніверсітэта Вітаўта Вялікага, доктар Русціс Камантавічус, дырэктар Літоўскага фонду культуры і ўнук Вацлава Ластоўскага Рымантас Матуліс ды іншыя.

Як кажа старшыня Таварыства беларускай культуры ў Літве Аляксандр Адамковіч, выйшла так, што іх арганізацыя мае больш стасункаў з літоўскімі дзяржаўнымі і недзяржаўнымі ўстановамі, чым з беларускімі арганізацыямі:

– Беларускіх арганізацый тут больш за 35, перад канферэнцыяй я шмат каму разаслаў запрашэнні: не адказалі, не павіншавалі, не прыйшлі, за выключэннем Валянціна Стэха. Але яго арганізацыя заснавалася яшчэ раней за ТБК. Вось мы існуём паміж сабой. А так можна, нават лагічна было б, атрымаць віншаванні ад іншых беларускіх арганізацый. Гэтага не адбылося.

На канферэнцыі было закранутае пытанне цяперашніх стасункаў літоўцаў і беларусаў. Дацэнт кафедры гісторыі ўніверсітэта Вітаўта Вялікага доктар Русціс Камантавічус сказаў, што літоўцы не хочуць заўважаць беларусаў. І гэта выклікала ў некаторых гарачую дыскусію.

– Прынамсі беларускі погляд на літоўцаў нашмат больш пазітыўны, чым літоўцаў на беларусаў. То бок праблема тут у двухбаковых рашэннях не на беларускім баку, а на літоўскім. Гэта літоўцы не хочуць бачыць. Яны бачаць і адначасова не хочуць бачыць. Трэба рашаць у першую чаргу на літоўскім баку. А зараз што атрымліваецца, што ўсе ў Літве занятыя пытаннямі, калі беларусы акупуюць Вільню, той жа літвінізм, калі аднімуць мінулае. Вось такое трызненне.

Нягледзячы на такія непаразуменні, на імпрэзе прысутнічала шмат літоўцаў, якія падтрымліваюць беларусаў, а само свята пачалося з выканання двух гімнаў – Літвы і Беларускай Народнай Рэспублікі:

На святкаванні таксама прысутнічалі ўніяцкія святары, якія прачыталі малітву за беларусаў і распавялі пра гісторыю ўніяцкай царквы ў Вільні і яе дзеячаў.

Імпрэза адбылася пры падтрымцы Дэпартамента нацыянальных меншасцяў.

racyja.com



# ВІНШАВАННЕ ЗБС "БАЦЬКАЎШЧЫНА" З НАГОДЫ 35-ГОДДЗЯ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЛІТВЕ

Шаноўныя сябры Таварыства беларускай культуры ў Літве!

Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" віншуе вас з 35-годдзем!

Мы ўсе помнім з гісторыі, як доўгія дзесяцігоддзі панавання савецкай імперыі, згубныя для нацыянальнай самасвядомасці ўсіх яе насельнікаў, паставілі ў Літве на мяжу вынішчэння ўсе адзнакі беларушчыны, змалілі дасягненні шматвекавой супольнай гісторыі беларускага і літоўскага народаў. І хто ведае, які стан рэчаў мы мелі б на сёння, каб напярэдадні падзення савецкай дзяржавы, 8 снежня 1988 года, у Вільні не паўстала Таварыства беларускай культуры ў Літве, сябры якога паставілі на мэце выправіць гэтую несправядлівасць – адраджаць, захоўваць і развіваць ў Літве беларускую культуру, аб'яднаць літоўскіх беларусаў?

Бурлівая дзейнасць Таварыства беларускай культуры пакіне ў гісторыі і сэрцах тых, хто да яе спрычыніўся, не толькі ўспаміны пра шматлікія імпрэзы і сустрэчы з удзелам літаратараў, навукоўцаў і грамадскіх дзеячаў, пра арганізацыю ўнікальных канферэнцыяў беларусаў Балтыйскага рэгіёна і Беларусі, згадкі аб правядзенні нацыянальных святаў і грамадска-палітычных акцый салідарнасці ў падтрымку дэмакратыі і правоў чалавека, свабоды і незалежнасці для Беларусі. Плён вашага штодзённага клопату застанецца ў беларускіх назвах вуліц, помніках на магілах нацыянальных дзеячаў (у тым ліку і перапахаваных у 2019 годзе паўстанцаў 1863–1864 гадоў), а таксама шматлікіх мемарыяльных дошках, якімі асабліва апекаваўся нядаўна спачылы ў 2018 годзе першы старшыня ТБК Хведар Нюнька. Неацэнным здабыткам для усіх беларусаў з'яўляецца Віленская гімназія імя Францыска Скарыны, якой не было б без Таварыства, як не было б і Цэнтра беларускай мовы, літаратуры і этнакультуры Літоўскага эдукалагічнага ўніверсітэту, інстытуцыі, значэнне якой для будучыні сёння, калі беларушчына зазнае знявагу і пераслед у самой Беларусі, асабліва ўзрастае.

Бягучая хваля эміграцыі шматкроць прымножыла беларускую прысутнасць у Літве. У нас няма сумневаў, што ў тым, як шматлікія новыя беларускія ініцыятывы, непасрэдна не звязаныя з дзейнасцю Таварыства беларускай культуры, сустракаюць з боку ўладаў краіны спрыянне і спагаду, ёсць ваша непасрэдная заслуга. Маладыя зярняты беларушчыны трапілі на добра падрыхтаваную літоўскую глебу. Ім заўсёды ёсць з кім параіцца і ў каго навучыцца мудрасці.

Сябры! Мы зычым Таварыству беларускай культуры і кожнаму з вас асабіста надалей заставацца такімі ж натхнёнымі і імпэтнымі, быць прыкладам служэння беларускай справе, набліжаць сапраўдную незалежнасць Беларусі і пашыраць беларускасць у Літве!

Жыве Беларусь!

ЗБС "Бацькаўшчына"

навіны

# “СЬВІТАНКУ” – 35! У РЫЗЕ АДЗНАЧЫЛІ ЮБІЛЕЙ ТАВАРЫСТВА

Сапраўдная марозная зіма прыйшла ў Латвію ўжо ў канцы восені. Але гэта не стала перашкодай таму, каб 26 лістапада ў Рызе адбылося ўрачыстае і адначасова вясёлае беларускае свята, якое прынесла гаспадарам і гасцям шмат цяпла і добрага настрою. Латвійскае таварыства беларускай культуры “Сьвітанак” запрасіла сваіх сяброў на юбілейную сустрэчу, прысвечаную 35-м угодкам таварыства “Сьвітанак”. У далёкім ужо 1988-м годзе, яшчэ за савецкім часам, 27 лістапада беларусы заснавалі першае ў Латвіі таварыства беларускай культуры. На юбілей сабраліся сталыя госці “Сьвітанка”, а таксама беларусы ды іх сябры, пачынаючы ад Таліна і да Латгаліі. Вечарына праходзіла традыцыйна “ў сваёй хаце” – у будынку Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі імя Іты Казакевіч.



Марыя Давыдава-Новікава і Таццяна Казак

Імпрэза гэтак жа традыцыйна распачалася з выканання ўсімі прысутнымі гімнаў Латвіі “Dievs, svēti Latviju” і неафіцыйнага гімна Беларусі “Магутны Божа”.

Пасля хвіліны маўчання ў гонар тых, хто адышоў у лепшы свет за гэтыя 35 гадоў, а таксама змагароў за незалежнасць Беларусі і Украіны, успамінамі падзяліліся тыя, для каго “Сьвітанак” сапраўды стаў часткай іх жыцця. Госці імпрэзы маглі пачуць невядомую дагэтуль інфармацыю пра гісторыю стварэння таварыства і намаганні і працу на беларускай ніве на працягу 35 гадоў ад першага старшыні “Сьвітанка” доктара медыцыны Сяржука Кузняцова, вядомага мастака, кавалера Ордэна Трох Зорак Вячкі Целеша, шматгадовай старшыні таварыства Таццяны Казак і намесніцы дырэктара Рыжскай беларускай школы і дырэкткі школьнага музея Янкі Купалы Ганны Іванэ.

Разам з беларусамі на свяце былі нашы сябры-латышы – доктар мастацтваў Ансіс Атаолс Бэрзыньш, сын вядомага паэта і шматгадовага сябра нашай суполкі Андрыса Бэрзыньша, фотамастак Оскар Пэйпіньш і іншыя. А старшыня таварыства “Free Belarus” Ілва Эвертэ не толькі звярнулася з віншаваннем да прысутных па-беларуску, а і яшчэ падрыхтавала шмат плакатаў са словамі падзякі беларусам, што было вельмі кранальна.

“Сьвітанак” прыехалі павіншаваць таксама госці-беларусы з Таліна з Беларускага інфармацыйна-культурнага цэнтра ў Эстоніі Артур Цурбакоў і Дзяніс Прыстромскі з сваімі сем’ямі. А сын Артура саксафаніст Якуб Цурбакоў нават падрыхтаваў музычны падарунак удзельнікам святочнай імпрэзы і выступіў разам з госцем з Беларусі – спеваком Віктарам Шалкевічам.

Госць вечарыны Стэфан Эрыксан, дырэктар Бюро Рады міністраў Паўночных краін у Латвіі, у сваёй віншавальнай прамове падзякаваў Латвійскаму таварыству беларускай культуры “Сьвітанак” за тое, што падчас сваёй працы ў Латвіі ён мае магчымасць з вялікім задавальненнем правесці час у беларускім асяродку. У свой час у 2000-х спадар Стэфан выконваў абавязкі Надзвычайнага і Паўнамоцнага Амбасадара Каралеўства Швецыі ў Рэспубліцы Беларусь. Ён не толькі дасканала вывучыў беларускую мову, але вельмі шмат зрабіў для развіцця беларуска-шведскіх стасункаў у галіне культуры. Таму такія словы ацэнкі працы таварыства спадара Эрыксана, які рэгулярна наведвае імпрэзы “Сьвітанка”, былі вельмі прыемнымі для арганізатараў юбілейнай вечарыны.

Лізавета Дубінка-Гушча была прызначаная дырэктаркай Дацкага інстытута культуры ў Эстоніі, Латвіі і Літве і таму сёлета прыехала ў Латвію. У сваёй віншавальнай прамове яна адзначыла, што заўсёды адчувае на “сьвітанкаўскіх” вечарынах сябе вельмі ўтульна, як дома ў Беларусі, і выказала спадзеў на далейшае плённае супрацоўніцтва.

Напэўна, падарункамі не трэба выхваляцца, але некаторыя з іх сапраўды вартыя ўвагі. Госця юбілейнай імпрэзы ўкраінка Таццяна Шчэрбанос, якая знайшла часовы прытулак у Латвіі з-за вайны і наведвае практычна ўсе нашы імпрэзы ў таварыстве, адмыслова ў якасці музычнага падарунка сваім беларускім сябрам на юбілей вывучыла і выканала песню Ігара Лучанка на словы Уладзіміра Някляева “Світанак”. Гэтая песня была таксама ў рэпертуары гурта “Сьвітанак” пры нашым таварыстве ў 2000-х гадах, таму шмат у каго з прысутных выклікала на-

## ВІНШАВАННЕ ЗБС “БАЦЬКАЎШЧЫНА” З НАГОДЫ 35-ГОДДЗЯ ЛАТВІЙСКАГА ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ “СЬВІТАНАК”

Шаноўныя сябры Латвійскага таварыства беларускай культуры “Сьвітанак”!

Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” віншуе вас з 35-годдзем!

27 лістапада 1988 года з волі беларусаў у Рызе паўстаў “Сьвітанак” – першая арганізацыя нацыянальнай меншасці ў Латвіі. Паставіўшы на мэце не толькі захаванне і абарону беларускай культуры, але таксама развіццё беларускай асветы і выхаванне нацыянальнай самасвядомасці, за немалы тэрмін свайго існавання сябры таварыства дасягнулі каласальных, узорных вынікаў. Нястомная і ахвярная праца сябраў “Сьвітанку” – гэта безліч праведзеных імпрэзаў, арганізаваных выставаў і святаў, канцэртаў і фестываляў, добра пастаўленая літаратурная і навуковая праца, сувязі з іншымі беларускімі суполкамі ва ўсім свеце, у тым ліку і праз удзел у З’ездах беларусаў свету. Гэта ўнікальнае аб’яднанне мастакоў-беларусаў Балтыі “Маю гонар!” і арганізацыя дзіцячых мастацкіх студыяў, гэта плённае супрацоўніцтва з дзяржаўнымі ўрадавымі арганізацыямі Латвіі і трывалая цікаўнасць да справаў таварыства з боку латвійскіх медыя. Урэшце, гэта Рыжская беларуская асноўная школа.

Сёння, калі беларуская культура перажывае ці не самыя чорныя дні ў гісторыі і зазнае сапраўдныя ганенні і знявагу ў самой Беларусі, досвед таварыства “Сьвітанак” неацэнны для раскіданых па свеце прадстаўнікоў бягучай хвалі эміграцыі, і як мала які іншы дапамагае ім належным і годным чынам размеркаваць свой патэнцыял.

Сябры! Мы зычым вам і надалей заставацца прыкладам салідарнасці і вернасці ідэалам дэмакратыі, спрыяць здабыццю сапраўднай незалежнасці Беларусі і мець добры плён у кожнай распачатай справе!

Жыве Беларусь!

ЗБС “Бацькаўшчына”



Ганна Іванэ



Вячка Целеш

стальгічныя ўспаміны.

А яшчэ таварыству “Сьвітанак” падаравалі кавалачак гісторыі нашай культуры ў Латвіі. Афішу з тэатральнай пастаноўкі “Паўлінка” беларускага тэатра ў Рызе ў 1937 годзе музею Рыжскай Беларускай асноўнай школы, заснаванай нашым таварыствам у 1994 годзе, прэзентаваў першы старшыня “Сьвітанка” Сяржук Кузняцоў.

Таксама варта адзначыць карціну “Падарунак”, падараваную Вольгай Якубоўскай і беларускім мецэнатам з Грузіі Іванам Бахціным. На жаль, знакамітая беларуская мастачка не змагла асабіста на юбілеі ўручыць падарунак, бо была ў гэты час на адкрыцці сваёй персанальнай выставы ў Італіі. Замест яе гэта зрабілі сябры аб’яднання беларусаў “Суполка”, з якім у “Сьвітанка” існуе цеснае супрацоўніцтва. Марыя Давыдава-Новікава ў сваім віншавальным выступе пажадала плёну ў працы таварыства і поспехаў у супрацоўніцтве паміж латвійскімі беларускімі грамадскімі арганізацыямі і надалей.

Галоўнай падзеяй юбілейнай вечарыны стаў канцэрт вядомага барда з Беларусі, паэта і шоўмэна Віктара Шалкевіча. Ён адмыслова прыехаў выступіць у Рызе на юбілеі і не пагадзіўся на сумныя ўспаміны аб тым, “як жа раней было добра”. Спявак упэўніў усіх, што 35-годдзе – гэта толькі пачатак, а “Сьвітанак”, як і нашу родную Беларусь, чакае светлая і радасная будучыня. Віктару падпявала ўся зала, а гук яго гітары прымушаў падтанцоўваць кожнага. Асаблівасцю барда з’яўляюцца яго анекдатычныя гісторыі паміж песнямі, якія таксама стваралі цудоўны настрой гэтай вечарыны. Ад канцэрта засталіся ў захапленні як тыя, хто даўно ведаў Віктара Шалкевіча,ягоныя адданыя фанаты, што спявалі ўсе песні на памяць, так і моладзь – тыя, хто слухалі яго песні ўпершыню.

Пасля канцэрта і апошніх віншаванняў адбыўся традыцыйны сяброўскі стол у Каміннай зале. Сябры “Сьвітанка” і госці знаёміліся паміж сабой, спявалі песні, успаміналі мінулае і рабілі планы на будучыню. Таксама прысутныя маглі пазнаёміцца з творамі беларускай мастачкі з аб’яднання “Маю гонар” Алены Лаўрыновіч, выстаўленымі ў Каміннай зале на яе персанальнай выставе з 24 лістапада. А Віктар Шалкевіч нястомна працягваў свой феерычны выступ і за святочным сталом.

У верасні 2023 года выйшаў мастацкі фільм “Mana brīvība” (Мая свабода), прысвечаны нацыянальнаму адраджэнню Латвіі і ролі нацменшасцяў у гэты час. Гэтая гісторыя таксама з’яўляецца гісторыяй “Сьвітанка”, бо таварыства – адно з заснавальнікаў Асацыяцыі нацыянальных культурных таварыстваў Латвіі імя Іты Казакевіч, якая таксама святкуе ў гэтыя дні сваё 35-годдзе. Недарма падчас выступу першага старшыні таварыства Сяргея Кузняцова былі ўзгаданыя яго адносіны з Ітай Казакевіч.

Мы выказваем шчырую падзяку Міністэрству культуры Латвіі, АНКТЛ імя Іты Казакевіч, асабіста спеваку Віктару Шалкевічу і сем’ям беларусаў Цурбаковых і Прыстромскіх з Эстоніі, без падтрымкі якіх юбілейнае свята не атрымалася б такім яскравым і запамінальным!

Дзякуем усім, хто завітаў на юбілейную імпрэзу.

Спадзяемся на новыя, такія ж шматлюдныя сустрэчы і плённую працу таварыства ў наступныя 35 гадоў і жадаем ўсім у Латвіі і нашай роднай Беларусі ўсяго самага найлепшага!

**Андрэй Татур, сябра Рады ЛТБК “Сьвітанак”;**
**Таццяна Казак, старшыня таварыства;**
**здымкі Оскара Пэйпіньша, Ансіса Бэрзыньша і Вячкі Целеша**

# ВІНШАВАННЕ ЗБС “БАЦЬКАЎШЧЫНА” З НАГОДЫ 75-ГОДДЗЯ ЗГУРТАВАННЯ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

Шаноўныя сябры Згуртавання беларусаў Канады!

Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына” віншуе вас з 75-гадовым юбілеем!

28 лістапада 1948 года беларусы, што апынуліся на эміграцыі, запачаткавалі Згуртаванне беларусаў Канады (ЗБК), якое сёння, праз тры чвэрці стагоддзя, справядліва ўважаецца за адну з найстарэйшых і найактыўнейшых беларускіх арганізацый у свеце. Сёння ЗБК аб’ядноўвае пяць беларускіх суполак у розных гарадах, мае за плячыма досвед незлічонай колькасці зладжаных імпрэзаў, праведзеных святаў і акцыяў салідарнасці, стала ўдзельнічае ў з’ездах і канферэнцыях, у тым ліку і ў З’ездах беларусаў свету, мае гонар быць ініцыятарам паўстання Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Канадзе, дапамагае выхоўваць новыя пакаленні канадскіх беларусаў...

Ваша плённая праца ў справе захавання, развіцця беларускай культурнай спадчыны і годнага і ўсебаковага прадстаўлення яе за мяжой, на працягу ўсіх гадоў была ўзорам для кожнага беларускага асяродка. Але сёння, калі беларуская культура трапіла ці ў не найбольшую небяспеку за ўсю гісторыю і зазнае ганенні і знявагу нават на нашай агульнай Бацькаўшчыне, ваша місія, ваш досвед і ваша вернасць нацыянальным ідэалам – гэта тое, у чым раскіданыя па свеце беларусы бягучай хвалі эміграцыі маюць надзённую патрэбу. Сёння, калі лёс беларушчыны літаральна залежыць ад кожнага яе носьбіта, Згуртаванне беларусаў Канады ёсць трывалым, правераным часам яе апірышчам.

Сябры! Мы шчыра зычым вам, каб дзейнасць Згуртавання беларусаў Канады пашыралася, аўтарытэт узрастаў, імпэт вашых сябраў узмацняўся і кожная задума прыносіла добры плён!

Жыве Беларусь!

**ЗБС “Бацькаўшчына”**

# “МІНСК У МАСТАЦТВЕ. ВОБРАЗЫ ГОРАДА”. ВЫЙШЛА КНІГА СЯРГЕЯ ХАРЭЎСКАГА

Мастацтвазнаўца, гісторык архітэктуры, культуролаг Сяргей Харэўскі выдаў ілюстраванае даследаванне “Мінск у мастацтве. Вобразы горада розных эпох”. У кнізе аўтар аналізуе творы мастакоў, прысвечаныя сталічным краявідам.

“Мяне непакоіла, што мастацкія вобразы Віцебска і Вільні добра вядомыя і шматкроць тыражаваныя, а пра Мінск такой працы ніхто не рабіў. Я пераймаўся, раўнаваў да іншых гарадоў і пакрысе збіраў, назапашваў матэрыял. Урэшце, я добра знаёмы з многімі творцамі, якія стваралі вобраз нашае сталіцы – светлае памяці Арленам Кашкурэвічам, Васілём Сумаравым ды многімі іншымі. Да таго ж некаторыя мастакі – Дзяніс Раманюк, Адам Глобус, Павел Татарнікаў, Уладзімір Сціпан – мае даўнія сябры… Навуковыя рэцэнзенты ў Беларусі і Літве высока ацанілі гэты корпус тэкстаў. Значыць, высілкі былі не марныя. І вось… маем!”, – згадвае аўтар кнігі.

Кніга выйшла ў выдавецтве “Логвінаў”.

**budzma.org**

**рэклама**

# МЫ ЗНАЙШЛІ ІДЭАЛЬНЫ КАЛЯДНЫ ПАДАРУНАК ДЛЯ ТЫХ, ХТО СУМУЕ ПА БЕЛАРУСІ

Ці думалі ўжо пра калядныя падарункі? Калі яшчэ не, дык самы час падумаць. Тым, каму цяжка выбіраць падарункі альбо не стае на гэта часу, на дапамогу прыйдзе брэнд TRSK, які стварыў "Вушасты бокс". У тым боксе ўсё па-беларуску і для беларусаў, і мы налічылі ажно 5 прычын, чаму гэта ідэальны калядны падарунак.

### Што ў Вушастым боксе

• *Лонгсліў з каляднай зоркай*

Прыгожы і ўтульны лонгсліў ад брэнду TRSK мае ў складзе 82% бавоўны і 8% эластану, а гэта значыць, што лонгсліў спакойна можна апранаць на час калядных забаў на вуліцы замест тэрмаадзення – калі катаецеся, прыкладам, на санках, сноўбордзе ці лыжах. Канечне, гаворка не ідзе пра экстрэмальнае надвор'е.

Лонгслівы ёсць у двух варыянтах – чырвоны і сіні, жаночы і мужчынскі.

• *Кніга "Хлопчык і снег" Альгерда Бахарэвіча*

Вольныя вечары калядных вакацый ідэальна падыходзяць для чытання, а з кнігай "Хлопчык і снег" некалькі прыемных вечароў вам ці атрымальніку падарунку забяспечана.

• *Набор налепак*

Стыкерпак з надпісам "Пахне чабор", трыма чарапахамі, балетам і іншымі малюнкамі – зразумелы толькі для беларусаў.

• *Калядная паштоўка*

А як жа без яе! Можна падпісаць самастойна ці папрасіць зрабіць гэта краму TRSK, калі "Вушасты бокс" замовіце адразу з дастаўкай той ці таму, каго плануеце павіншаваць з Калядамі і Новым годам.




### 5 прычын, чаму "Вушасты бокс" – ідэальны падарунак на Каляды

*1. Душэўны падарунак з беларускім каларытам*

Калядны бокс зроблены адмыслова беларусамі для беларусаў. Ён абавязкова прынясе цёплыя пачуцці тым, хто захапляецца беларускай культурай і сумуе па Радзіме.

*2. Універсальны*

Гэта падарунак, які спадабаецца і калегам па працы, і сябрам, і сваякам.

*3. Унікальны*

Рэчы з "Вушастага бокса" нельга набыць у першай-лепшай краме. Лонгсліў і стыкерпак былі распрацаваныя дызайнерамі адмыслова для кліентаў брэнду TRSK і прадаюцца невялікімі партыямі.

*4. Эканоміць ваш час*

Не трэба мучыцца і бегаць па крамах. Для вас ужо выбралі найлепшае і адметна-беларускае і ўпакавалі ў прыгожы бокс. Бярыце і дарыце! Нават паштоўку, якая ўваходзіць у набор, могуць падпісаць па вашым жаданні і адразу даслаць адрасату.

*5. Прыгожы*

Калядная зорка, беларускія колеры на лонгсліве выдатна пасуюць да таго, каб стварыць прыгожы калядны лук і выкарыстаць яго ў навагодняй фотасесіі.

### Як замовіць гэтую скрынку цудаў і як працуе дастаўка

"Вушасты бокс" можна замовіць і адразу ж аплаціць на сайце trsk.io. Плацяжы аўтаматызаваныя і робяцца за лічаныя секунды.

У Вільні замову можна забраць самастойна па адрасе Šiaulių g., 10.

Дастаўка па Літве выконваецца на працягу 7–14 працоўных дзён з моманту паступлення аплаты за тавар, па астатніх краінах ЕС – да 30 рабочых дзён. Магчымая таксама дастаўка ў ЗША і Канаду.

Калі засталіся пытанні, звяртайцеся на email: info@trsk.io. І памятайце: "Вушасты бокс" нясе радасць ад беларусаў беларусам!

## Беларускі каляндар памятных дат на снежань 2023 года

**4 снежня**
- 220 гадоў таму, у 1803-м, памёр Давыд Пільхоўскі, пісьменнік, выдавец.

**7 снежня**
- 160 гадоў таму, у 1863-м, памёр Ануфры Петрашкевіч, паэт, архівіст.
- 145 гадоў таму, у 1878-м, нарадзіўся Андрэй Зязюля (сапр. Аляксандр Астрамовіч), каталіцкі святар, паэт. Памёр у 1921-м.
- 25 гадоў таму, у 1998-м, памёр Леанід Пракопчык, краязнавец, пісьменнік.

**8 снежня**
- 60 гадоў таму, у 1963-м, памёр Даніла Васілеўскі, гісторык, літаратуразнавец.

**9 снежня**
- 50 гадоў таму, у 1973-м, памёр Янка Шутовіч, выдавец, літаратуразнавец.

**18 снежня**
- 50 гадоў таму, у 1973-м, Пётр Клімук стаў першым беларусам, што паляцеў у космас.

**19 снежня**
- 295 гадоў таму, у 1728-м, памёр Леў Кішка, уніяцкі царкоўны дзеяч, рэлігійны пісьменнік.

**25 снежня**
- Каляды (Божае Нараджэнне), паводле грыгарыянскага календара
- 25 гадоў таму, у 1998-м, адбыўся першы перапіс насельніцтва Беларусі. Яно складала 10 045 200 чалавек (з іх 8 159 000 – беларусаў). Беларускую мову роднай назвалі 73,7% жыхароў краіны.

**26 снежня**
- 45 гадоў таму, у 1978-м, памёр Вінцук Адважны (сапр. Язэп Германовіч), каталіцкі святар, пісьменнік, дзеяч эміграцыі ў Італіі і Вялікабрытаніі.

**30 снежня**
- 105 гадоў таму, у 1918-м, створаны Мінскі беларускі педагагічны інстытут.
- 45 гадоў таму, у 1978-м, у Капылі адкрыўся гісторыка-краязнаўчы музей.

# ІМЯ СКАРЫНЫ НА МАПЕ РЫГІ ЯК ВЫНІК ВЫСІЛКАЎ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК І ЛНБ

**Працяг са старонкі 4.**

Пісьмовае абгрунтаванне ў падтрымку мэру і камісіі Рыжскай Думы было напісана і ад Латвійскай Акадэміі навук.

У 2022 годзе ў Камітэце па развіцці горада Рыгі Рыжскай Думы разглядалі нашы звароты, але не падтрымалі ініцыятыву аб наданні назвы тых сквераў і частку той вуліцы, якія мы ўказалі. Замест гэтага прапанавалі далёкае ад цэнтра горада і пустое месца на беразе Даўгавы. На паседжанні па гэтым пытанні ў Латвійскай Нацыянальнай бібліятэцы, кіраўнікі праекта Андрыс Вілкс, супрацоўнік бібліятэкі, вядомы рыжскі архітэктар, былы міністр культуры Латвіі Яніс Дрыпэ, кіраўніца Фонду замежных сувязяў бібліятэкі Вікторыя Пішчыкава і Вячка Целеш ад ЛТБК "Сьвітанак" тады адхілілі гэтую прапанову і напісалі ліст камісіі з просьбай, каб вызначылі скарынаўскае месца бліжэй да цэнтра горада. Сёлета з Камітэта па развіцці горада Рыжскай Думы даслалі праект пастановы і карту вуліц Лачплеша і Маскавас з малюнкам плана невялікага сквера, які там ёсць, і якому прапаноўваецца надаць імя Скарыны. Месца знаходзіцца непадалёк ад цэнтра горада і ад вуліцы Стругу, якая атрымала імя ад назвы беларускіх вялікіх лодак "струг". У адказ кіраўнікі праекта паведамілі, што згодныя з вызначаным месцам сквера і чакалі, калі Рыжская Дума прыме пастанову аб наданні скверу імя Францыска Скарыны.

І эпідэмія кавіду, і пачатак поўнамаштабнай вайны Расеі з Украінай, і новыя перавыбары Рыжскай Думы і мэра горада затрымлівалі рэалізацыю нашай ідэі. Аднак нарэшце 29 лістапада 2023 года Рыжская Дума большасцю галасоў прыняла пастанову аб наданні невялічкаму скверу на вул. Лачплеша імя Францыска Скарыны.

Пасля гэтай пастановы кіраўнікі праекта са спецыялістамі і арганізацыямі Рыжскай Думы будуць працаваць над мастацкім афармленнем сквера, каб яно было ўтульным, прыгожым і сімвалічным. Каб сквер стаў месцам, куды беларусы змогуць прыйсці з кветкамі і ўспомніць сваю Бацькаўшчыну і нашага геніяльнага Францыска Скарыну.

Ад імя беларусаў выказваем шчырую падзяку мэру горада Рыгі Вілнісу Кірсісу, кіраўніку Камісіі па назве вуліц і гарадскіх аб'ектаў Улдысу Фрэйманталсу, начальніцы Аддзела міжнароднага супрацоўніцтва Рыжскай Думы Галіне Букоўскай і ўсім, хто спрычыніўся да справы па наданню рыжскаму скверу імя слыннага сына беларускай зямлі.

**Вячка Целеш, svitanak.eu**

**Беларусы ў свеце**
№ 11 (258), лістапад 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com